# Literaturkalender
# Літаратурны каляндар

А хто там ідзе, а хто там ідзе
У агромністай такой грамадзе? —
Беларусы.

А што яны нясуць на худых плячах,
На руках у крыві, на нагах у лапцях?
Сваю крыўду.

А каму-ж нясуць гэту крыўду ўсю,
А куды-ж нясуць на паказ сваю? —
На свет цэлы.

А чаго-ж, чаго захацелась ім
Пагарджаным век, ім глухім, сляпым,
Людзьмі звацца!

## Klassiker der belarussischen Literatur
## Класікі беларускай літаратуры

Літаратурная Кавярня
Literarisches Cafe

**Institut für Deutschlandstudien in Minsk**

2009

# Vorwort
# Уступ

Шаноўныя прыхільнікі прыгожага пісьменства,

нечаканым падарункам альбо праз доўгія пераборы да Вас у рукі трапіў наш каляндар. Нарадзіўся гэты першы дзвюхмоўны літаратурны каляндар на падставе праекту “Літаратурная кавярня” Інстытута нямецкіх даследаванняў у Мінску. Праект мае на мэце ўзаемную прэзентацыю літаратурных ландшафтаў, беларуска-моўнага і нямецкамоўнага, сучаснага і гістарычнага. Ужо на працягу амаль двух гадоў Кавярня рэгулярна запрашае ў прастору, дзе сустракаюцца людзі і мовы.

Як бы нам ні хацелася сцвердзіць роўнасць і раўназначнасць абедзьвюх літаратур у свядомасці і чытачоў, і аўтараў, нешта ўсё ж замінае. А менавіта: узровень вядомасці, цалкам незбалансаваны, у першую чаргу, у дачыненні да гісторыі літаратуры: ледзь не кожны беларус назаве хоць аднаго класіка нямецкай літаратуры, а калі запытацца ў немцаў пра класікаў беларускіх...

Гэты каляндар – маленькі крок на шляху да пераадолення такой “незбалансаванасці”.

Праз 2009 год Вас будуць суправаджаць імёны і аблічча асобаў, якія складалі духоўную гісторыю Беларусі, на якіх адбівалася дзяржаўная гісторыя нашай краіны: амаль у кожнай біяграфіі – знак часу.

Сярод тэкстаў на старонках каляндара і знакавыя, і тыя, што не набылі шырокай вядомасці. Мы свядома прытрымліваліся такой шматграннасці, таму кожны “месяц” будзе адрозным ад папярэдняга: праграмнае “А хто там ідзе?” Купалы, шчымлівая і стрыманая “Споведзь” Генію́ш, якую зменяць віткаўскія жартаўліва-казачныя радкі, што потым саступяць месца гарэзлівым замалёўкам Барадуліна...

Як куратарка праекта я шчыра дзякую ўсім, хто падтрымаў і ажыццявіў ідэю каляндара “Класікі беларускай літаратуры”, і жадаю кожнаму яго ўладальніку цікавых адкрыццяў і прыемных літаратурных імгненняў.

Ірына Герасімовіч,
куратарка праекта

Verehrte Freunde der schöngeistigen Literatur,

als Überraschungsgeschenk oder über weite Wege kam unser Kalender Ihnen in die Hände. Unser erster zweisprachiger Literaturkalender entstand aus dem Projekt „Literarisches Café“ des Instituts für Deutschlandstudien (Minsk). Das Projekt strebt die gegenseitige Präsentation der Literaturlandschaften an – der belarussisch- und der deutschsprachigen, gegenwärtigen wie historischen. Seit knapp zwei Jahren lädt das Café regelmäßig in den Raum ein, wo Menschen und Sprachen zusammenkommen.

Wie sehr wir es uns auch wünschten, die Gleichberechtigung und die Gleichstellung der beiden Literaturwelten im Bewusstsein der Leser sowie der Autoren feststellen zu können, etwas hindert uns doch daran. Es ist nämlich der Grad der Bekanntheit, der insbesondere in Fragen der Literaturgeschichte ganz ungleich ist: fast jeder Belarusse kann etwa wenigstens einen Klassiker der deutschen Literatur nennen – wenn man aber Deutsche nach belarussischen Klassikern fragt…

Dieser Kalender ist ein kleiner Schritt auf dem Weg zur Überwindung dieser „Unausgeglichenheit“.

Durch das Jahr 2009 werden Sie von den Namen und Gesichtern begleitet, die die belarussische Geistesgeschichte geformt haben, die von der politischen Geschichte unseres Landes geprägt wurden – fast jeder Lebenslauf trägt ein Zeichen seiner Zeit.

Unter den Texten auf den Kalenderseiten finden sich sowohl solche, die einen Symbolwert haben, als auch die, die nicht sehr bekannt wurden. Wir haben uns bewusst an eine solche Vielfalt gehalten, weil sich dadurch jeder Monat vom anderen unterscheidet: das programmatische Gedicht „Wer drängt sich im Lauf?“ von Kupala, die rührende und zurückhaltende „Beichte“ von Henijusch, die von den spaßigen Reimen Witkas abgelöst werden, die wiederum den mutwilligen Anekdoten Baradulins Platz machen…

Als Projektleiterin danke ich herzlich allen, die das Vorhaben des Kalenders „Klassiker der belarussischen Literatur“ unterstützt und umgesetzt haben, und wünsche jedem Kalenderbesitzer interessante Entdeckungen und spannende Literaturerlebnisse.

Iryna Gerassimowitsch
Projektleiterin

# Maxim Harezki

18.02.1893-10.02.1938

# Максім Гарэцкі

## Дзёгаць

Юлечка з цёткаю выйшлі на ганак. Юлечка зірнула на вуліцу і моцна пачырванела… Усе тры яе кавалеры з пукамі бэзу падыходзілі ад лавачкі да ганку. Яны ветліва пакланіліся цётцы і ёй.

- Выбачайце, панна Юля, мы хацелі зрабіць вам сюрпрыз, - сказаў гімназіст, падаючы ёй кветкі, і нават расшаркаўся, як не на вуліцы.

- Мой лепшы! – сказаў кароценькі, падаючы свой пук.

Яго доўгі таварыш маўкліва сунуў ёй свой букет у рукі.

- Ну, з Богам, дзетка, - прамовіла цётка. Юлечка, не гледзячы па баках і нeяк па-хлапецку не стаўшы на каток, скокнула на калёсы, падкомкала пярыну, абгарнулася хусткаю, утупілася і без радасці сказала:

- Дзякую, дзякую…

Сеў і бацька, сіўчык памкнуў, Юлечка адхіснулася, - паехалі.

- Пішы, Юля! - крыкнула цётка.

А вучні яшчэ ішлі па баках. Гімназіст несумысля наступіў на дзёгаць, што капнула з катка, і цяпер няўпрыцям дрыгаў нагою, каб адкасацца ад яго, але да падэшвы падліпла вельмі добра, і яму было прыкра, што зусім гэтая Юлечка Пухальская не такая, як ён думаў.

Кароценькі махаў рукой, а доўгі адзаду маўчаў і ўжо патроху аставаўся.

Нарэшце ўсе яны засталіся, а фурманка з Юлечкаю паехала за горад шыбчэй.



## Birkenteer

Nun traten Julia und die Tante auf die Treppe. Julia schaute auf die Straße und errötete tief. Alle drei Kavaliere kamen mit ihren Fliedersträußen an die Treppe. Sie verneigten sich höflich vor der Tante und ihr.

„Entschuldigen Sie, Fräulein Julia. Wir wollten Ihnen eine Überraschung bereiten“, sagte der Gymnasiast und überreichte ihr die Blumen. Er machte sogar einen Kratzfuß, als befände er sich nicht auf der Straße.

„Meiner ist noch besser!“, sagte der Kleine und reichte ihr seinen Strauß. Sein langer Kamerad drückte ihr sein Bukett wortlos in die Hand.

„Nun, Gott segne dich, mein Kind“, sagte die Tante.

Ohne sich umzuschauen oder erst auf die Radnabe zu treten, sprang Julia wie ein Junge auf den Wagen. Sie setzte sich auf dem Pfühl zurecht, wickelte sich in ihr Tuch, starrte vor sich hin und sagte freudlos: „Danke, danke.“

Nun nahm auch ihr Vater Platz und trieb den Grauschimmel an; Julia schwankte zurück - sie fuhren ab. „Schreib mal, Julia!“, rief die Tante ihr nach.

Die Schüler gingen noch eine Weile nebenher. Der Gymnasiast war versehentlich in den Birkenteer getreten, der von der Nabe heruntergetropft war, und schlenkerte jetzt ununterbrochen mit dem Fuß, um den Teer wieder loszuwerden. Dieser klebte jedoch fest an der Sohle, und der Junge ärgerte sich, dass Julia Puchalskaja gar nicht die war, für die er sie gehalten hatte.

Der Kleine winkte; der Lange schwieg und war bereits etwas zurückgeblieben.

Schließlich blieben sie alle stehen, und der Wagen fuhr mit Julia schnell zur Stadt hinaus.

1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 13 14 15 16 17 18 19 20 21 22 23 24 25 26 27 28 29 30 31

Januar

Студзень

2009

# Zjotka
# Цётка

3.07.1876-5.11.1916



## Асеннія лісты

- Сцяпане! – крэпка надумаўшыся, азваўся Сымон. – Чуў, шмат чуў ад людзей пра тваё адзіноцтва, але што зробіш, жыццё трасе чалавекам… ой, рэчкі павысахлі... так трасе, так трасе, як вецер лісцем на дзераве! А мы з табою, Сцяпане, праўду сказаць, асеннія лісты, патрасе шчэ крыху намі, патрасе, і адпадзем! О-ё-ён! Рэчкі павысахлі… бззз! і праляцела… А вазьмі хоць мяне: і жонка жыве, і дзяцей маю, і не калека. А дабра, што плюнуць. Палын кіпіць у грудзі, гаркаценне цераз берагі… - паказвае на сэрца. – Выгналі бацьку на старасць – і жабруе. Ох, рэчкі павысахлі… А што зробіш? Мусіць, там было так напісана… - Глядзіць, як гусак, адным вокам у неба.

Асенняе неба і хмарна і зімна… не адкажа вам, пажоўклыя лісточкі. Вецер толькі закалыша і знікне. Адзін звон мо па вас заплача шчыра, а зямля-маці прытуліць спрацаваныя косці. Елка або бяроза пусціць карэнне ў вашы збалелыя сэрцы, выцягне з іх усю горыч і вынесе ў вясёлай зелені суроваму свету… канец мукі.

## Herbstblätter

„Szjapan!“, sagte Symon endlich nach langem Nachdenken. „Ich habe sehr viel von deiner Einsamkeit erzählen gehört. Aber was tun? Das Leben rüttelt die Menschen tüchtig durch. Ach, die Flüsse sind ausgetrocknet… Man wird gerüttelt und geschüttelt wie das Laub an den Bäumen. Und im Grunde, Szjapan, sind wir doch zwei Herbstblätter, wenn nur noch ein wenig an uns gerüttelt wird, dann fallen wir ab. Ach, ja, ausgetrocknet sind die Flüsse! Tsss! Und vorbei. Sieh mich an: Meine Frau und meine Kinder leben, und ein Krüppel bin ich auch nicht. Doch was mir gehört, ist zum Draufspucken. Mein Herz ist voller Wehmut, die Bitterkeit steigt über die Ufer.“ Er fasste sich ans Herz. „Ihren Vater haben sie auf seine alten Tage fortgejagt, und jetzt muss er betteln gehen. Ach, die Flüsse sind ausgetrocknet… Aber was tun? Sicher stand es irgendwo so geschrieben.“ Wie ein Gänserich blickte er mit einem Auge zum Himmel.

Der Herbsthimmel ist kalt und voller Wolken, er gibt euch keine Antwort, ihr vergilbten Blätter. Nur der Wind fächelt leise und legt sich dann wieder. Die Totenglocke allein wird euch vielleicht redlich beweinen, wenn Mutter Erde eure abgearbeiteten Knochen zu sich nimmt. Eine Tanne oder Birke wird in euren gequälten Herzen Wurzeln schlagen, wird alle Bitternis aus ihnen heraussaugen und sie der rauen Welt in heiterem Grün darbringen – dann hat alle Qual ein Ende.

*Deutsch von Gundula und Wladimir Tschepego*

1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 13 14 15 16 17 18 19 20 21 22 23 24 25 26 27 28

# Februar
# Люты

2009

# Janka Kupala
# Янка Купала

7.07.1882-28.06.1942



## А хто там ідзе?

А хто там ідзе, а хто там ідзе
У агромністай такой грамадзе?
    - Беларусы.

А што яны нясуць на худых плячах,
На руках ў крыві, на нагах у лапцях?
    - Сваю крыўду.

А куды ж нясуць гэту крыўду ўсю,
А куды ж нясуць напаказ сваю?
    - На свет цэлы.

А хто гэта іх, не адзін мільён,
Крыўду несць наўчыў, разбудзіў іх сон?
    - Бяда, гора.

А чаго ж, чаго захацелась ім,
Пагарджаным век, ім, сляпым, глухім?
    - Людзьмі звацца.

## Wer drängt sich im Lauf?

Wer drängt sich im Lauf, wer drängt sich im Lauf,
Diese vielen dort, die kommen zuhauf?
    -Belorussen.

Und was schleppen sie an ohne Ruh und Rast,
Was macht bluten die Hand und den Schuh aus Bast?
    -Ihr Los: Unrecht.

Und wo tragen sie´s hin, wer soll es wohl sehn,
Daß ihnen bislang solch Unrecht geschehn?
    -Die Welt weithin.

Und wer hat sie gelehrt, es millionenfach
Zu tragen voran, wer rüttelt sie wach?
    -Die Not, Sorge.

Und was wollen sie denn, die man taub ließ, blind,
Die erniedrigt von je, die beleidigt sind?
    -Als Mensch gelten.

*Deutsch von Elisabeth Kottmeier*

1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 13 14 15 16 17 18 19 20 21 22 23 24 25 26 27 28 29 30 31

# März
# Сакавік

2009

# Jakub Kolas
# Якуб Колас

3.11.1882 - 13.08.1956



...

Цёплая летняя ноч павольна апускалася на зямлю і ўсё гусцей і гусцей цярушыла над ёю, як бы прасяючы праз танчэншае сіта, малюпасенькія крупінкі змроку. Рэзка вызначаныя абрысы лясоў і ўзгоркаў трацілі сваю форму і знікалі ў цемры. Летняе неба, здавалася, ніжэй звесілася над зямлёю і ўзіралася ў яе тысячамі бліскучых вачэй. Але на зямлі ў гэты момант было пуста і ціха, — так ціха, што патыхала нейкай жудасцю, бо яна, гэтая цішыня, была такая незвычайная, такая непры-вычная. І небу, як відаць, не хацелася паверыць, што там, на зямлі, і сапраўды спакойна, бо яно зараз жа выслала з-за цёмнага краю зямлі яшчэ аднаго дазор-цу — крывава-чырвоны, сцяты баханец craя-чык. Чуць падняўшыся над дубоваю кудзеркаю лесу, што стаяла па той бок Псла, крыху павесялеўшы месячык зараз жа нырнуў у хмарку. Відаць, гэта проста была яго ваяцкая хітрасць, і гэтую хітрасць запазычыў ён ад людзей, бо ў гэтым месцы зямлі яны якраз вая-валі. І чуць толькі закрыў ён свой твар у цёмнай хмарцы, як у гэты ж момант адтуль, з-пад кудзеркі дубовага лесу, гукнула гармата. Глуха здрыганулася цёмнае паветра, і водгулле-гром пакаціўся па Пслу, па глыбокіх ярах, як грознае суладдзе хору віхроў.

...

Eine warme Sommernacht senkte sich auf die Erde.

Die Umrisse der Wälder und Hügel verloren ihre Formen, verschwanden im tiefen Dunkel. Der Sommerhimmel schien sich über die Erde zu beugen und sie mit vielen tausend funkelnden Augen zu betrachten. Aber auf der Erde war es leer und so außergewöhnlich still, daß es beklemmend wirkte.

Auch der Himmel traute der Ruhe nicht; nach kurzer Zeit entsandte er vom dunklen Horizont seinen Kundschafter — einen griesgrämigen blutroten Mond.

Der Mond stieg über den struppigen Eichenwald, der sich am anderen Ufer des Psjol erhob, sein Antlitz hellte sich auf, aber dann schlüpfte er hinter eine Wolke. Offensichtlich war das eine Kriegslist, die er von den Menschen übernommen hatte, denn in dieser Gegend führten sie gerade Krieg. Und kaum hatte der Mond sich hinter der Wolke verborgen, da krachte hinter dem Eichenwald ein Geschütz. Die feuchte Luft erbebte, ein dumpfes Echo fing sich in den hohen Steilufern des Psjol.

*Deutsch von Sergej Korjaga*

1 2 3 **4** **5** 6 7 8 9 10 **11** **12** 13 14 15 16 17 **18** **19** 20 21 22 23 24 **25** **26** 27 28 29 30

# April
# Красавік

2009

# Ales Adamowitsch
# Алесь Адамовіч

3.09.1927-26.01.1994

## Каратели

Холодная, скользко-изогнутая Вселенная, а в ней солнечно освещенная ниша. Как стеклянная мухоловка. Стенки из синего бесконечного льда. Там, снаружи — Их глаза. В круглой нише, внутри ледяной Вселенной ползают по изогнутой стенке те, кто называет себя людьми (…) Снаружи — Они! Глаза льда. Нет, огненные Глаза! Я, только я вижу Их. О, не легко было выманить Их из тысячелетней дали и выси! И остановить, удержать на себе. На Германии. Мои людендорфы думают, что под Москвой меня русские остановили. Нет, меня, нас оставили Они! Увели Глаза в сторону, и лед пополз, стал побеждать (…) Их нет, и лед наступает на нишу. Надо быть Их огнем, Их гневом и ужасом, и тогда Глаза снова смотрят, ждут, требуют. И все идет, как предсказывал я (…) Вот наше главное оружие, секретное, им владеет Германия, пока есть я. Только пока я есть. Пора наконец понять простую истину: Фюрер хорош не потому, что хорош, а потому что есть, и он незаменим.



## Henkersknechte

Das kalte, glatt gekrümmte WELTALL, darin eine besonnte Nische. Wie eine gläserne Fliegenfalle. Die Wände aus endlosem blauem Eis. Dort draußen sind IHRE Augen. In der runden Nische, inmitten des eisigen WELTALLS, kriechen auf der gekrümmten Wand die Wesen, die sich Menschen nennen (…) Draußen sind SIE! Die Augen des Eises. Nein, Feueraugen! Ich, nur ich sehe SIE. Oh, nicht leicht war es, SIE herauszulocken aus der tausendjährigen Ferne und Höhe! Und sie zum Stehen zu bringen, sie festzuhalten. Über Deutschland. Meine Ludendorffs glauben, die Russen hätten mich vor Moskau zum Stehen gebracht. Nein, SIE haben mich, uns verlassen! Sie haben die AUGEN abgewandt, und das Eis ist losgekrochen, hat zu siegen begonnen (…) SIE sind nicht mehr da, und das Eis greift die Nische an. Ich muß IHR Feuer sein, IHR Zorn, IHR Entsetzen, dann sehen die AUGEN wieder her, warten, fordern. Und alles geht so, wie ich es vorhergesagt habe (…) Das ist unsere wichtigste Waffe, eine Geheimwaffe, Deutschland besitzt sie, solange ich bin. Nur solange ich bin. Es ist endlich an der Zeit, die einfache Wahrheit zu begreifen: Der Führer ist gut, nicht weil er gut ist, sondern weil er *ist,* und er ist unersetzlich.

*Deutsch von Thomas Reschke*

1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 13 14 15 16 17 18 19 20 21 22 23 24 25 26 27 28 29 30 31

Mai
Травень

2009

# Wassil Bykau
# Васіль Быкаў

19.06.1924-22.06.2003

## Знак бяды

На шчасце ці на бяду, яна ведала, у чым яе хопіць да скону. За сваё цяжкое жыццё яна ўсё ж спазнала праўду чалавечых адносін і пакрысе здабыла свой невялічкі чалавечы гонар. А той, хто аднойчы адчуў сябе чалавекам, ужо скацінай не стане. Шмат што ў жыцці, асабліва гора і бяда, пераканалі яе ў тым, што з людзьмі трэба абыходзіцца па-добраму, калі хочаш, каб і да цябе адносіліся па-людску. Напэўна, чалавек такі ўжо ад прыроды, што адказвае дабром на дабро і не можа адказаць дабром на зло. Зло не можа спарадзіць нічога, апроч зла, на іншае яно не здольна. Але бяда ў тым, што людская дабрыня перад злом бяссільна, зло лічыцца толькі з сілай і баіцца адно толькі кары. Толькі непазбежнасць адплаты можа прыцішыць драпежны ягоны нораў, прымусіць задумацца. Інакш на зямлі запануе пекла, аб якім гаворыцца ў Бібліі.



## Zeichen des Unheils

Ob Glück kam oder Unglück, sie wußte, wovon sie reichlich in sich hatte, wovon sie sich selbst am Rande des Todes nicht lossagen würde. In ihrem schweren Leben hatte sie trotz allem die Gerechtigkeit erkannt und stückchenweise ihre menschliche Würde erworben. Und wer sich einmal als Mensch gefühlt hat, kann nicht mehr zum Vieh werden. Vieles im Leben, namentlich Leid und Unglück, hatte sie überzeugt, daß man mit seinen Mitmenschen im Guten auskommen muß, wenn man von ihnen menschlich behandelt werden will. Der Mensch ist wohl so eingerichtet, daß er Gutes mit Gutem beantwortet, schwerlich aber Böses mit Gutem. Böses zeugt nichts als Böses, zu anderem ist es nicht fähig. Aber das Unglück ist ja, daß menschliche Güte dem Bösen gegenüber ohnmächtig ist, das Böse hingegen nur Gewalt gelten läßt und nur Strafe fürchtet. Lediglich unabwendbare Strafe vermag ihm den räuberischen Sinn zu mildern und es zum Nachdenken zu bringen. Ohne dies würde auf Erden das Chaos herrschen wie in biblischen Zeiten.

*Deutsch von Thomas Reschke*

1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 13 14 15 16 17 18 19 20 21 22 23 24 25 26 27 28 29 30

Juni
Чэрвень

2009

# Uladzimir Karatkewitsch

# Уладзімір Караткевіч

26.11.1930-25.07.1984

## Блакіт і золата дня

Хустку дзяўчына скінула і разаслала на каленях, бо сонца ў гэты дзень нечакана прыгрэла, і па вадзе скакалі залатыя іскры, ад якіх моршчыўся нос і хацелася чхаць.

З-пад хусткі была відаць клятчастая спадніца, пад ёю другая – белая. І ўсё на гэтым дзеўчаняці ляжала так ладна. І так забаўна жмурыліся ад сонца і ленай млявасці яе вочы, што кожны сказаў бы:

-Вось каму жыць добра.

А жыць было на самой справе добра! Наперадзе далёкая дарога сярод затопленых лясоў; верхавіны дрэў, што плаваюць у блакітнай смузе; дрымотныя крыкі пеўняў над вадою.

Куды было спяшацца? Наперадзе – жыццё. Аднаго не хапала: каб падышоў нехта ззаду, вялікі, цёплы, як сон, абняў за плечы і прынік шчакою да скроні.

Раней і думаць аб гэтым было страшна. І мужа яна ўяўляла сабе не інакай, як чужога хлопца, з якім трэба сядзець на покуце і, неведама чаму, цалавацца. А вакол зялёныя шклянкі і чырвоныя твары.

Але адышло насланнё, прыгрэлі промні, заказыталі ў носе. Захацелася скруціцца ў іх цеплыні, як котка.

І каб нехта гладзіў.



## Vom Blau und Gold des Tages

Das Mädchen hatte sich das Tuch abgebunden und über die Knie gebreitet; die Sonne schien an diesem Tag sehr heiß. Über dem Wasser glitzerten Spritzer. Fröhlich blinzelten sie in die Sonne, nur zuweilen schloss sie matt die Augen. Eine weite Reise hatte für sie begonnen. Überschwemmte Wälder, Baumkronen im blauen Dunst und über dem Wasser das Krähen der Hähne.

Wozu streiten? Vor ihr lag das Leben. Nur eines fehlte: ein großer, schöner Mann, der sie von hinten um die Schulten fassen und seine Wange an ihre Schläfen lehnen würde.

Früher hatte sie daran nicht zu denken gewagt. Als ihren Liebsten konnte sie sich nur einen fremden Burschen vorstellen, mit dem sie auf dem Ehrenplatz am Tisch sitzen und sich - warum eigentlich? - abküssen müsste. Und ringsum grüne Gläser und gerötete Gesichter.

Dieses Bild schob sie schnell von sich; wieder wärmten die Sonnenstrahlen und kitzelten in der Nase.

*Deutsch von Hans-Joachim Grimm*

1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 13 14 15 16 17 18 19 20 21 22 23 24 25 26 27 28 29 30 31

Juli

Ліпень

2009

# Janka Bryl
# Янка Брыль

4.08.1917-25.06.2006



## Апоўначы

За дваццать пасляваенных гадоў я гэты хутар бачыў і вясной, і ўлетку, і ўвосені…

(…)

Увосені – калі на кірмашных вазах, зусім як быццам неасуджана, спакойна і сыта парохкваюць сальныя парсюкі, а ў кошыках дробнымі кветкамі чырванеюць грабеньчыкі курыных навабранцаў пеўнікаў; калі наш любы свет наскрозь прапахне аўтонаўкай, а маладзенькая, стрункай рабіна каля сцежкі стаіць, цнатліва абцяжараная першымі, румянымі ад шчасця гронкамі.

Толькі зімой, у белай, лютай бездані, я памятаю яго, гэты хутар, з вайны. Нібыта я яго больш ніколі не бачыў – ні з саней, ні з машыны, ні з рыплівай сцежкі. Не з дзён вайны памятаю, а з начэй, яшчэ больш дакладна – з адной завірушнай поўначы…

## Um Mitternacht

In den ganzen zwanzig Jahren nach dem Krieg habe ich das Gehöft zu jeder Jahreszeit gesehen, im Frühling, im Sommer und auch im Herbst.

(…)

Im Herbst, wenn in den Leiterwagen, die zum Jahrmarkt rattern, die fetten Ferkel zufrieden und satt vor sich hin grunzen, als sei ihr Schicksal nicht schon längst besiegelt, und wenn die Kämme der jungen Hähnchen in den Körben wie zierliche Blumen rot aufleuchten; wenn es überall auf unserer lieben Welt nach Antonsäpfeln duftet und die junge, schlanke Eberesche am Wege sich glücklich wie ein Mädchen mit den ersten roten Dolden behängt.

Im Winter aber, im weißen, scharfen Frost, erinnere ich mich an dieses Gehöft nur so, wie ich es während des Krieges erlebt habe. Es ist, als hätte ich es zu dieser Jahreszeit später nie wieder gesehen, weder vom Schlitten oder vom Auto aus noch wenn ich zu Fuß den knirschenden Weg entlanggegangen bin. Nicht an die Kriegstage hier erinnere ich mich, sondern an die Nächte, genauer gesagt, an eine stürmische Winternacht.

*Deutsch von Gundula und Wladzimir Tschepego*

1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 13 14 15 16 17 18 19 20 21 22 23 24 25 26 27 28 29 30 31

# August
# Жнівень

2009

# Wassil Witka
# Васіль Вітка

16.05.1911-5.07.1996

## Казка без канца

Выйшаў я на ганак
І ем абаранак.

Падбягае Янка:
– Дай абаранка.

А я кажу: – Не.
А ён – на мяне.

Грымнуў абаранак,
Разбіўся аб ганак,

Рассыпаўся ў крошкі,
Прыбеглі дзве кошкі

І адзін сабака.
Я з гора заплакаў,

Пайшоў тату жаліцца,
А тата пытаецца:

– Як і з-за чаго,
Хто першы – каго?

Стаў я свайму татку
Расказваць спачатку:

– Выйшаў я на ганак
І ем абаранак...

Тата кажа: – Хлопец,
Мне ўсё ясна – хопіць.



## Ein Märchen ohne Ende

Einmal geh ich zum Hoftor hinaus
Und ess' meinen Kringel draußen.

Da kommt Janka gelaufen:
– Gib mir ein Stückchen zu kauen.

Ich sag ihm darauf: – Nein.
Da springt er mich an.

Hin sauste der Kringel,
zerbrach an der Wurzel der Linde,

Zerbröckelte der ganze.
Gleich kamen zwei Katzen

Und ein Hund.
Vor Tränen verzog ich den Mund,

Ging zum Vater über das Leid klagen,
Und der Vater beginnt zu fragen:

- Wie kam's und weswegen,
Und wer als erster wen?

Ich begann dem Vati dann
Alles zu erzählen, von Anfang an:

– Ich geh zum Hoftor hinaus
Und ess' meinen Kringel draußen…

Der Vati sagt: – Bub,
Alles schon klar – genug.

1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 13 14 15 16 17 18 19 20 21 22 23 24 25 26 27 28 29 30

# September
# Верасень

2009

# Rygor Baradulin
# Рыгор Барадулін

geb./нар. 24.02.1935



## Здубавецьця

Вушацкія называюць усё абы як сабранае, выдуманае й нявыдуманае, нішто й нешта, прастакаватае й хітраватае, вясёлае й сумнаватае адным словам «здубавецьця».

## Адзін

На стол гаспадыня паставіла варыва. Сын першы чарэпнуў лыжкай, сербануў і заплакаў.

– Чаго ты, сынок, плачаш? – пытаецца бацька.

– Што я ў цябе адзін...

– Ня плач. Адзін ды ладзін.

Бацька сьмела чарэпае. Варам абдае ўсё ў роце.

– Адзін ты ў мяне, каб ты быў апошні...

## Ненармальны

Нехта з вушацкіх шафёраў паехаў у суседнюю Смаленшчыну.., але забыўся ўзяць з сабой папаску. Заўсягды ж ня забываўся, асабліва калі ехаў у Расею. Прыехаў. У вадну хату, у другую – просіць, каб што прадалі: ці масла, ці яек, ці сала. Як на марсіяніна глядзяць за такую просьбу. Нарэшце, калі ногі прыбіў да самага азадку, нехта зьлітаваўся, дый паслаў у канцавую хату: «Там ненармальны жыве». А ненармальны, як выясьнілася, таму, што трымае сьвінчо, курэй, нават кароўку. Ён зь Беларусі пераехаў. Зямляк.

## Sdubawezzja

In Wuschatscha nennt man alles Gott weiß wie Gesammeltes, Ausgedachtes und Wahres, nichts und etwas, Einfältiges und Schlaues, Lustiges und Trauriges mit einem Wort „Sdubawezzja“ – „das Gezweig der Eiche“.

## Der Einzige

Die Hausfrau setzte Suppe auf den Tisch. Der Sohn langte als erster mit dem Löffel, schlürfte und weinte.

– Was weinst du, Junge? – fragt der Vater.

– Dass ich dein Einziger bin…

– Weine nicht. Einer, aber feiner.

Der Vater schöpft voll. Kochende Suppe brüht ihm alles im Munde ab.

– Mein Einziger bist du, dass du mein Letzter bist…

## Ein Verrückter

Ein Chauffeur aus Wuschatscha fuhr in die Nachbarregion Smolensk.., vergaß aber, was zum Essen mitzunehmen. Nie war ihm das vorgekommen, besonders wenn er nach Russland sollte. Er kam an. In welchem Haus er auch bittet, ihm etwas zu verkaufen – Butter oder Eier oder Speck, man sieht ihn wie Marsmenschen an. Endlich, als er sich schon die Beine abgelaufen hatte, zeigte jemand Mitleid mit ihm und wies auf das Haus am Dorfende ein: „Da wohnt ein Verrückter.“ Und verrückt, wie es sich zeigte, deswegen, weil er ein Schwein, Hühner, sogar eine Kuh hielt. Er war aus Belarus hierher gezogen. Ein Landsmann eben.

1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 13 14 15 16 17 18 19 20 21 22 23 24 25 26 27 28 29 30 31

# Oktober
# Кастрычнік

2009

# Laryssa Henijusch
# Ларыса Геніюш

9.08.1910-7.04.1983



## Споведзь

Я ніколі нічога не планавала, планы — гэта домікі з карт, а ў свеце было такое ўсё нестабільнае, і вайна ў Гішпаніі кідала нецікавы цень на ўсю Еўропу. Я сабе думала: ну, што ўжо будзе, калі двое людзей ідуць з чыстым сэрцам і з верай у харошае, дык жыццё ж іх не загубіць. Мне не давалі вялікай нейкай выправы, паводле слоў маяго мужа, гэта ўсё было лішнім, бо ж моды мяняліся, там, гдзе ён жыве, далі нам проста вэксалі на кусок зямлі й крыху грошай. Небагаты мой муж нейк не вельмі аб гэтым усім клапаціўся, здавалася — будзем жыць з ветру. Ці проста быў ён мужчынам, які заўсёды ўпэўнены, што так ці іначай на сваю сям'ю кусок хлеба заробіць. І так ішлі мы ў жыццё з ярым кляймом беларускасці на чале. Ішлі насупраць, з чыстым, адданым Айчыне сэрцам, усіх тых ворагаў, для якіх адна назова нашай Зямлі была нямілай.

## Beichte

Ich habe nie etwas geplant, Pläne sind Kartenhäuser, und in der Welt war alles so recht unbeständig, und der Spanienkrieg überschattete ganz Europa unattraktiv. Ich dachte mir: Na, was soll da schon kommen, wenn zwei Leute mit reinem Herzen und dem Glauben an das Gute losziehen, so wird das Leben sie doch nicht zugrunde richten. Man hat mir keine so große Aussteuer mitgegeben, wie mein Mann meinte, sei das alles nicht nötig, die Moden wechselten ja, da, wo er lebe, man gab uns einfach Wechsel für ein Grundstück und etwas Geld mit. Mein Mann, nicht reich wie er war, machte sich irgendwie nicht so viel Sorgen darum, es schien, wir würden vom Winde leben. Oder er war bloß ein Mann, der immer sicher ist, dass er so oder so'n Stück Brot für seine Familie verdient. Und so gingen wir ins Leben mit dem brennenden Zeichen des Belarus-Seins auf der Stirn. Wir gingen mit unseren reinen, dem Vaterland hingegebenen Herzen all den Feinden entgegen, denen allein der Name unseres Landes schon widerwärtig war.

1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 13 14 15 16 17 18 19 20 21 22 23 24 25 26 27 28 29 30

**November**
**Лістапад**

**2009**

# Nil Hilewitsch
# Ніл Гілевіч

geb./нар. 30.09.1931



...

Сто гадоў ты прагнуў гэтай стрэчы,
Сто гадоў чакаў ты гэтых воч,
Знаючы, што прыйдзе гэты вечар,
Верачы, што будзе гэта ноч!

Сто гадоў ты смяг без гэтых вуснаў,
Сто гадоў чарсцвеў без гэтых рук...
Што ж цяпер так горка ты ўсміхнуўся?
Уявіў стагоддзе новых мук?

...

Hundert Jahre hast gelechzt nach diesem Treffen,
Hundert Jahre in Erwartung dieser Augen gewacht,
Wusstest, es soll kommen dieser Abend,
Glaubtest, es wird einmal diese Nacht!

Hundert Jahre bist verdorrt ohne diese Lippen,
Hundert Jahre hart geworden ohne diese Hand…
So woher dann nun dies bittre Lächeln?
Siehst du neue Qual schon – hundert Jahre lang?

1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 13 14 15 16 17 18 19 20 21 22 23 24 25 26 27 28 29 30 31

## Dezember
## Снежань

2009

# Літаратурны каляндар “Класікі беларускай літаратуры” на 2009 год

**Уклад і рэдакцыя**
Ірына Герасімовіч, Вера Гурыновіч, Сяргей Паўлавіцкі

Пераклад Сяргея Паўлавіцкага (у выпадку, калі гэта не ўказана на старонцы)

**Мастацкае афармленне**
Вера Гурыновіч

На вокладцы змешчана выява аўтографа верша Я. Купалы “А хто там ідзе?”.

Уключаныя ў каляндар матэрыялы былі ласкава прадстаўленыя **Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры**, а таксама ўзятыя з наступных крыніц:

- Адамович, А. Каратели : радость ножа, или Жизнеописание гипербореев. – Минск, 1981.
- Быкаў, В. Знак бяды. - Мінск, 1984.
- Яна і Я : Вершы і песні пра каханне / Уклад. Ул. Сіўчыкаў, Р. Шастак. – Мінск, 2005.
- Adamowitsch, A. Henkersknechte: Das Glück des Messers, oder Lebensbeschreibungen von Hyperboreern / Aus dem Russischen von Thomas Reschke.
- Belarussische Erzählungen – Беларускія апавяданні/ Уклад. і прадм. Ул. Сакалоўскі. Пер. з бел. мовы Г. Гербат, Н. Рандауі інш. - Мінск, 2000.
- Bykau, W. Zeichen des Unheils: Roman / Deutsch von Thomas Reschke. Berlin.
- “Беларуская палічка” (http://knihi.com).

Асабістая падзяка **Вользе Барысаўне Гулевай**.

Куратарка праекта “Літаратурная кавярня” - **Ірына Герасімовіч**.
Праект ажыццяўляецца ў межах дзейнасці **Інстытута нямецкіх даследаванняў**
пр-т Газеты “Праўда”, 11    220 116 Мінск    +375 17 272 20 92    www.cfis-ifd.de


Institut für Deutschlandstudien

# Literaturkalender „Klassiker der belarussischen Literatur“ für das Jahr 2009

**Herausgeber**
Iryna Gerassimowitsch, Vera Gurinowitsch, Siarhei Paulawizki

Übersetzt von Siarhei Paulawizki (wenn auf der jeweiligen Seite nicht anders angegeben)

**Künstlerische Gestaltung**
Vera Gurinowitsch

Auf dem Umschlag ist die Originalhandschrift des Gedichts “Wer drängt sich im Lauf?” von J. Kupala zu sehen.

Die im Kalender gedruckten Materialien sind freundlicherweise vom **Staatlichen Museum der Geschichte der belarussischen Literatur** zur Verfügung gestellt worden. Weitere Quellen sind:

- Adamowitsch, A. Karateli: radost' nosha, ili Shisneopissanije giperborejew. Minsk, 1981.
- Adamowitsch, A. Henkersknechte: Das Glück des Messers, oder Lebensbeschreibungen von Hyperboreern / Aus dem Russischen von Thomas Reschke.
- Belarussische Erzählungen – Belaruskija apawjadanni / Herausgegeben und mit Vorwort von Ul. Sakalouski. Aus dem Belarussischen von G. Gerbat, N. Randau u.a. Minsk, 2000.
- Bykau, W. Zeichen des Unheils: Roman / Deutsch von Thomas Reschke. Berlin.
- Bykau, W. Snak bjady. Minsk, 1984.
- Jana i Ja: Gedichte und Lieder über Liebe / Hrsg. Von Ul. Siutschykau, R. Schastak. Minsk, 2005.
- „Belaruskaja Palitschka“ (http://knihi.com).

Besonderer Dank gilt **Wolha B. Gulewa**.

Leitung des Projekts „Literarisches Café“: **Iryna Gerassimowitsch**.
Das „Literarische Café“ist ein Projekt des **Instituts für Deutschlandstudien**
pr-t Gasety Prawda, 11    220 116 Minsk    +375 17 272 20 92    www.cfis-ifd.de


Institut für Deutschlandstudien